

Праваабарончы
інфармацыйны бюлетэнь
Берасьцейшчыны

№2 (люты), 2016

# Мяжа




**Пенсіянер змагаецца за пераразлік сваёй пенсіі**

(старонка 11)

## ЗЬМЕСТ

## Берасцейскія прадпрымальнікі выйдуць на вулічную акцыю



Берасцейскія ІП плануюць правесці мітынг за скасаванне указаў №222 і №48, якія рэгламентуюць іх дзейнасць.

Як паведаміла БелаПАН сябра РГА «Перспектыва» Алена Кустус, пастанова падаць заяўку на правядзенне мітынгу была прынятая 3 лютага ў Берасце на сходзе ля рынка «ЦУМ», у якім узялі ўдзел больш за 400 індывідуальных прадпрымальнікаў, якія рэалізоўвалі прадукцыю легпрама на рынках і ў гандлёвых цэнтрах рэгіёну.

«На гэтым сходзе таксама быў агучаны зварот на імя старшыні Берасцейскага аблвыканкама з патрабаваннем скасаваць указы №№ 222 і 48, - сказала Кустус. - Пад гэтым дакументам падпісалася 445 індывідуальных прадпрымальнікаў. Збор подпісаў прадоўжыцца яшчэ некалькі дзён, і затым мы аднясем зварот у аблвыканкам».

Са слоў Кустус, 1 студзеня ў Берэсці прыпынілі сваю працу 80% ІП, якія гандлююць нехарчовымі таварамі. Аднавіць працу яны маюць намер толькі пасля скасавання абодвух указаў.

Нагадаем, што з 1 студзеня 2016 года, згодна з указам Лукашэнкі, прадпрымальнікі не могуць прадаваць тавары лёгкай прамысловасці, увезеныя з краін Мытнага саюза, без сертыфікатаў. Да 1 студзеня 2016 года ім надавалася права рэалізаваць рэшткі тавараў, увезеных да 1 ліпеня 2014 года ў Беларусь без суправаджальных дакументаў, паводле зарэгістраваных у падатковых органах вопісах рэшткаў.

http://charter97.org/be/news/2016/2/3/189739/

## Для ІХ закон не пісан!

1.02.2015 вядомы баранавіцкі праваабаронца Сяргей Гоўша накіраваў паўторную скаргу Пракурору брэсцкай вобласці.

Нагадаем, што Сяргей Гоўша назіраў за выбарамі прэзідэнта ў мінулым годзе. Пасля выбараў 22 кастрычніка ён зхвярнуўся ў



Баранавіцкі гарацкі выканаўчы камітэт з просьбай інфармаваць насельніцтва праз СМІ аб выніках галасавання на кожным з выбарчых вучасткаў паасобку.

У адказе намесніка старшыні гарвыканкама Д.А. Касцюкевіча было сказана, што запатрабаваная інфармацыя была апублікаваная ў СМІ і ў адмысловых інтэрнет-сайтах.

Такі адказ праваабаронцу не задаволіў, бо на ягонае перакананне, была апублікаваная толькі абагульненая інфармацыя па выбарах, а пытанне было аб выніках галасавання па кожным з вучасткаў паасобку. Таму Сяргей Гоўша палічыў, што чыноўнік Касцюкевіч ухіліўся ад прадастаўленні запатрабаванай інфармацыі і звярнуўся са скаргай у Брэсцкі абласны выканаўчы камітэт на адказ Баранавіцкага гарвыканкама.

Аблвыканкам, на думку праваабаронцы, таксама ўхіліўся ад адказу на ягонае пытанне даць інфармацыю па кожным з вучасткаў паасобку: "**…С ходом избирательной компании и итогов выборов на каждом участке имели возможность ознакомиться граждане, зарегистрированные в качестве наблюдателей**", - было напісана ў чарговым адказе.

Сяргей Гоўша зразумеў, што звычайны "смяротны" грамадзянін не ме магчымасці азнаёміцца з вынікамі галасавання па кожным з вучасткаў і пабачыць дзе, як і за каго галасуюць выбаршчыкі, што сваімі адказамі прадстаўнікі ўлады не лічацца з просьбамі выбаршчыкаў аб прадастаўленні поўнай інфармацыі адносна выбараў, чым парушаюць іх законныя правы.

Наступным крокам праваабаронца звярнуўся ў Брэсцкую абласную пракуратуру. Намеснік пракурора А.Т. Точка адказаў: "Па выніках праверкі па вашым звароце парушэнняўЗаконадаўства Рэспублікі Беларусь не выяўлена, у сувязі з чым падставы для прыняцця мер пракурорскага рэагавання адсутнічаюць".

1 лютага абураны чарговай адпіскай чарговага чыноўніка Сяргей Гоўша звярнуўся са скаргай да Самага пракурора Брэсцкай вобласці з

просбай выканаць патрабаванні Канстытуцыі і Выбарчага кодэксу і, між іншым, у рэшце рэшт прадаставіць яму інфармацыю аб выніках галасавання па кожным з выбарчых вучасткаў Баранавіч.

## Улады «перагнулі кій» з ІП



Перамовы чыноўнікаў з ІП доўжыліся больш за чатыры гадзіны.

Праблемы ў гандлі таварамі легпрама іпэшнікі нарэшце змаглі абмеркаваць на тэрыторыі ўладаў. Учора ў Мінэканомікі прайшло пасяджэнне рабочай групы ў пытаннях дзейнасці ІП.

Нагадаем, стварыць працоўную групу для развязання праблемных пытанняў на апошнім форуме ІП, які прайшоў у Менску 1 лютага, паабяцаў выканаўца абавязкаў дырэктара дэпартамента прадпрымальніцтва пры Міністэрстве эканомікі Пётр Арушаньянц. Дагэтуль прадпрымальнікі доўгі час намагалі, каб іх запрасілі на паседжанне грамадска-кансультатыўнага савета ў развіцці прадпрымальніцтва пры Мінэканомікі.

«Галоўнае пытанне, якое абмяркоўвалі на сустрэчы ў Мінэканомікі, - гэта дзеянне ўказа №48 (тычыцца сертыфікатаў - заўв. рэд.). Мы прапанавалі, каб індывідуальных прадпрымальнікаў, якія з'яўляюцца плацельшчыкамі адзінага падатку, вывелі з-пад дзеяння гэтага ўказа, - распавёў tut.by дырэктар аналітычнага цэнтра Рэспубліканскай канфедэрацыі прадпрымальніцтва Анатоль Змітровіч пасля сустрэчы ў Мінэканомікі. - Органы ўлады сказалі, што зразумелі, што перабралі меру. Гэта прыблізнае збліжэнне пазіцый».

Са слоў Анатоля Змітровіча, на 4-гадзіннай сустрэчы чарговым разам казалі аб зніжэнні штрафаў для іпэшнікаў за парушэнне патрабаванняў тэхрэгламентаў Мытнага саюза. «Прадстаўнікі ўлады пагадзіліся, што ненармальна, калі недакладнасці ў дакументах прыраўноўваюць да адсутнасці дакументаў на тавар», - сказаў Анатоль Змітровіч.

Лідар грамадскага аб'яднання «Перспектыва» Анатоль Шумчанка,

якія таксама прысутнічаў на сустрэчы ў Мінэканомікі, распавёў, што прадстаўнікі Дзяржстандарта пацвердзілі, што ў першым паўгоддзі не будуць праводзіць праверкі працы ІП. «Нічога новага не было на сустрэчы. Але важна, што пачаўся перамоўны працэс і ва ўладаў ёсць жаданне развязаць пытанне», - заявіў Анатоль Шумчанка.

Нагадаем, напярэдадні Дзяржстандарт запэўніў, што не будзе ладзіць на рынках масавыя праверкі ў першым паўгоддзі, але працягне займацца маніторынгам працы ІП. Пазапланавыя праверкі маюць намер праводзіць толькі ў тых выпадках, калі падчас маніторынгу ўсплыве «істотнае неадпаведнасць усім патрабаванням», а таксама ў выпадку паступлення скаргаў ад незадаволеных пакупнікоў.

Чарговае пасяджэнне рабочай групы ў пытаннях дзейнасці індывідуальных прадпрымальнікаў запланавана на 11 лютага. «На ім будзе абмяркоўвацца дзеянне ўказу №222. Толькі пасля гэтага будзе развязвацца пытанне, каб перадаць выпрацаваныя прапановы ў Саўмін, - удакладніў Шумчанка. - Плануецца, што такія сустрэчы будуць праходзіць кожны чацвер цягам некаторага часу».

Яшчэ да пачатку пасяджэння лідар грамадскага аб'яднання «Перспектыва» Анатоль Шумчанка заявіў, што за сертыфікацыю тавару павінны адказваць пастаўшчыкі, якія яго завезлі на тэрыторыю МС, альбо вытворцы, а не іпэшнікі. «Гэта неабходна дакладна і канкрэтна прапісаць ва ўказе №48 «Аб мерах забеспячэння дзяржаўнага кантролю (нагляду) за выкананнем патрабаванняў тэхнічных рэгламентаў», - заявіў Анатоль Шумчанка.

А пачынаць дыялог з ІП прадстаўнікам улады, на яго думку, трэба было з іншага - з абмеркавання нашумелага ўказа №222. Нагадаем, паводле гэтага дакумента ўсе індывідуальныя прадпрымальнікі з 1 студзеня могуць прадаваць імпартны тавар легпрама толькі з суправаджальнымі дакументамі.

На сустрэчы прысутнічалі прадстаўнікі Мінэканомікі - кіраўнік установы Уладзімір Зіноўскі, яго намесніца Ірына Касцевіч, намесніца міністра гандлю Ірына Наркевіч, прадстаўнікі Дзяржстандарта.

На пасяджэнне запрасілі прадстаўнікоў бізнэс-саюзаў, прафсаюза работнікаў розных форм прадпрымальніцтва «Садружнасць»,

прадстаўнікоў радаў індывідуальных прадпрымальнікаў рынкаў і гандлёвых цэнтраў сталіцы, абласных цэнтраў і некаторых райцэнтраў.

Нагадаем, што грамадскае аб'яднанне «Перспектыва» накіравала заяўку ў Менгарвыканкам на правядзенне ў парку Дружбы народаў 15 лютага мітынгу. Аб планах правесці мітынг заявілі таксама берасцейскія прадпрымальнікі.

http://charter97.org/be/news/2016/2/9/190391/

## У жыхара Івацэвіча, які скардзіўся на зьбіцьцё міліцыяй, правяліператрус




У жыхара Івацэвічаў Сяргея Дылюка, які сьцьвярджае, што яго зьбілі міліцыянты, адбыўся ператрус. Спадар кажа, што яго вінавацяць у крадзяжы. У Сьледчым камітэце пакуль не камэнтуюць заявы Дылюка пра зьбіцьцё яго міліцыянтамі.

Больш за тыдзень таму з івацэвіцкай лякарні быў выпісаны Сяргей Дылюк, які апавядаў Свабодзе, што яго зьбілі міліцыянты.

Жыве спадар Дылюк у прыватным сэктары ў Івацэвічах непадалёк ад «Івацэвічдрэва». Хата сьціплая, дома — небагата. Гаспадар не працуе, кажа, што перабіваецца падзаработкамі.

«У лякарні паляжаў, здаецца, лепей, але нармальна ніяк не становіцца. Усё качае ды боўтае, і галава кружыцца», — распавёў

Сяргей Дылюк пра свой стан.

Пасьля выхаду зь лякарні яго выклікалі ў міліцыю на допыты:

«Прыехаў сьледчы крымінальнага вышуку Куратнік, кажа, паехалі на гадзінку ў міліцыю. Раніцай забраў, а дома ўжо быў дзесьці каля 17-й. Мяне вінавацяць у тым, што скраў прыстаўку ў суседа. Сказалі канкрэтна, што была прыстаўка, што быццам я прадаў нейкаму Фамічу. Што за Фаміч, у мяне такіх знаёмых няма», — кажа Дылюк.




Спадар Дылюк кажа, што цяпер на допытах яго ня білі, але ён «ад страху пападпісваў паперы, якія там складаліся». Мужчына заявіў журналістам, што на допытах агаварыў сябе, баючыся, што будуць біць.

На мінулым тыдні дома ў Сяргея Дылюка адбыўся ператрус:

«Нічога ніхто не знайшоў. Участковы хадзіў, шукаў, папераварочваў усё. Павінна быць санкцыя пракурора на ператрус. Але ніякай паперы ніхто не паказваў. Пачалі шманаць усё на сьвеце, перавярнулі ўсё, але не знайшлі нічога».

Сяргей Дылюк кажа, што міліцыянты ў часе ператрусу не прадстаўляліся і санкцыі ад пракурора яму не паказвалі.

Карэспандэнт Свабоды зайшоў да суседа Сяргея Дылюка, які

быў панятым у часеператрусу, пэнсіянэра Міхаіла Ятчэні:

«Прыйшлі мяне паклікалі, сказалі, што буду панятым. Рабілі ператрус у яго, нічога не знайшлі. Напісалі, мы падпісаліся. Не, я не чытаў, бо я не прачытаю, ня бачу. Ну, яны (міліцыянты. — РС) сказалі, што вось, маўляў, паглядзіце, што мы шукаем. Усё прашукалі — нічога», — кажа спадар Ятчэня.

Пэнсіянэр Ятчэня характарызуе свайго суседа Сяргея Дылюка не найлепшым чынам. Кажа, што выпівае, хоць журналістам раней Дылюк даводзіў, што п’е надзвычай рэдка.

Галоўны інспэктар па інфармацыі і сувязі з грамадзкасьцю ўпраўленьня Сьледчага камітэту Рэспублікі Беларусь па Брэсцкай вобласьці Марына Дранкова паведаміла Радыё Свабода, што праверка па заяве Сяргея Дылюка яшчэ праводзіцца. Пра яе вынікі будзе паведамлена дадаткова.

http://www.svaboda.org/content/siarhiej-dyliuk-ivacevicy/27539186.html

## Уладзімір Табула падаў у пракуратуру скаргу на паштовае аддзяленне

Звольнены з прадпрыемства “Граніт” інжынер па тэхніцы бяспецы Уладзімір Табула звярнуўся ў пракуратуру Лунінецкага раёна са скаргай на паштовае аддзяленне ў Мікашэвічах. Ён мяркуе, што адказы на ягоныя скаргі прачытваюцца зацікаўленымі людзьмі.

Адказ з Берасцейскага абласнога выканаўчага камітэта высланы 29 студзеня, а ў паштовую скрынку чамусьці не яму, а маці Табулы ўкінуты 3 лютага.

Калі пісьмо прыйшло ў Мікашэвічы – невядома: штэмпель адсутнічае, кажа Уладзімір Табула:

— І тое дзіўна, бо я паўсюль указваю свой адрас: Першамайская 39-54, а прыйшло на адрас Першамайская 3а-30. Дык значыць, ускрывалі канверт.

Трэба адзначыць, што барацьба Табулы за ўзнаўленне на працы набывае дэтэктыўную афарбоўку. Невядомы міліцыянт прадстаўляецца маці Табулы ўчастковым і вядзе пошукі нейкага ананіма, што напісаў пісьмо ў Міністэрства архітэктуры, а заадно

распытвае, пра што Табула піша ў гэтае ж Міністэрства.

— Пытанне вось у чым: ці вы выпадкова ніякага звароту па электроннай пошце ці інтэрнэт не дасылалі пасля гэтага?… А калі вы яго адпраўлялі? А вы ведаеце такую асобу, як Якубчанка Інэса Мікалаеўна? Бо жанчына з такім іменем таксама даслала зварот…

Уладзімір Табула лічыць, што паштовыя работнікі і падстаўны ўчастковы гуляюць на карысць генеральнага дырэктара “Граніта” Эдуарда Гаўрылковіча, які даўно дзейнічае, як гаспадар іх гарадка.

http://www.racyja.com/hramadstva/uladzimir-tabula-padau-u-prakuraturu/

## У Берасці прадпрымальнікі ладзілі сход

У Берасці на рынку “ЦУМ” адбыўся сход індывідуальных прадпрымальнікаў. У ім удзельнічала каля двухсот гандляроў з берасцейскіх рынкаў. Прадпрымальнікі абмеркавалі бягучы стан перамоваў з уладамі. Абсалютная бальшыня прагаласавала супраць адмены мітынга, які плануецца ў Берасці 19 лютага. Заяўка на мітынг ляжыць у гарадскім выканаўчым камітэце. Лідары мясцовага прадпрымальніцкага руху распавялі аб працы перамоўнай групы з уладамі. Паведамілі, што чарговая сустрэча перамоўнай групы адбудзецца 15 лютага. Прысутным на сходзе растлумачылі пазіцыю аб’яднання “Перспектыва”, чаму адклікалі заяўку на мітынг.

Прадпрымальнік Павел Якаўлевіч прапанаваў выступіць у прэсе з адкрытым пісьмом да Аляксандра Лукашэнка, паколькі ён адзін усё вырашае:

– Раз ён убіў сабе ў галаву, што мы “ўшывыя блохі” і “бандыты”, то пакуль мы самы недзе там не адзначымся, нічога не будзе. Яны ж даслалі агітку на Еўраньюс, што Беларусь – краіна для пражывання. Давайце мы дашлем контрагітку: што Беларусь – гэта краіна, дзе пражываюць адны бандыты, дзе людзі не маюць права выехаць за мяжу, людзі не маюць права атрымліваць з-за мяжы пасылкі і г.д. Плюс цяпер жаніцца нельга, развадзіцца нельга, таму што налогамі нас абклалі. І “партыя дармаедаў” павінна нас падтрымаць.

Лідары берасцейскіх прадпрымальнікаў заявілі, што 15 лютага ў Менску будзе несанкцыянаваны мітынг і кожны мусіць “сам вырашаць пад сваю адказнасць, ехаць туды ці не”. 17 лютага вырашана

сабрацца на паўторны сход у Берасці.

http://www.racyja.com/hramadstva/u-berastsi-pradprymalniki-ladzili-skh/

## Пенсіянер змагаецца за пераразлік сваёй пенсіі

Жыхар горада Маларыта Старожык Тарас Сцяпанавіч патрабуе пералічыць яго пенсію і спагнаць недаатрыманую суму з Упраўлення па працы, занятасці і сацыяльнай абароны Маларыцкага раённага выканаўчага камітэта.

Тарас Сцяпанавіч сышоў на пенсію ў 55 гадоў у сувязі з асаблівымі ўмовамі працы, таму што працаваў газазваршчыкам 6 разраду 12,5 гадоў, а агульны стаж яго працы складаў больш за 30 гадоў. Атрымліваючы пенсію менш за 3 мільёны, у яго ўзніклі сумневы ў правільнасці яе налічэння.

Пенсіянер асабіста зрабіў разлік агульнага працоўнага стажу і выявіў, што Упраўленне здзейсніла памылку, няправільна вызначыла 11-гадовы безперапынны перыяд працы для разліку індывідуальнага каэфіцыента з чэрвеня 1980 г. па студзень 1993 г.

Старожык палічыў, што здзейсненыя Ўправленнем памылкі паўплывалі на памер пенсіі і са студзеня 2006 года па кастрычнік 2015 года пенсія налічвалася няправільна.

Пенсіянер звярнуўся ў Камітэт па працы, занятасці і сацыяльнай абароне Брэсцкага аблвыканкама, але яго скарга не дала ніякіх вынікаў.

Далей звярнуўся па дапамогу ў Міністэрства працы і сацыяльнай абароны Рэспублікі Беларусь. У адказе Міністэрства вызначыла выплату пенсіі за перыяд работы згодна з прадстаўленнай даведкай. У матэрыялах справы па віне Маларыцкага райвыканкама адсутнічала даведка аб заробку ў Будаўнічым упраўленні №6. Упраўленне зрабіла запыт аб прадастаўленні даведкі не з пачатку працы на прадпрыемстве з 13.02.1978, а за частку перыяду працы з 01.01.1980 па чэрвень 1983.

Пенсіянер падаў зыскавую заяву ў суд Маларыцкага раёна. Суд не задаволіў зыск – спаслаўся на адсутнасць дакладнай сумы выплаты розніцы пенсіі заяўніка.

11 лютага 2016 года гэтым разам Брэсцкі абласны суд разгледзеў

зыскавую заяву Старожыка Тараса Степеновича і, выслухаўшы довады заяўніка, прапанаваў пазначыць прыблізную суму розніцу выплаты, пасля чаго падаць касацыйную скаргу ў суд Маларыцкага раёна па якой ізноў разпачнуць справу.

## Брэсцкім іпэшнікам не дазволілі правесці запланаваны мітынг

4 сакавіка брэсцкія ІП плануюць правесці ў горадзе мітынг. На ім прадпрымальнікі хочуць выступіць за адмену 222-га і 48-га ўказаў кіраўніка дзяржавы. Адпаведныя дакументы яны рыхтуюць у гарвыканкам.

Пра гэта было абвешчана на чарговым сходзе брэсцкіх прадпрымальнікаў. Яна адбылася 17 лютага на рынку каля мясцовага ЦУМа.

Гэта будзе другая спроба іпэшнікаў правесці вулічную акцыю. Бо гарадскія ўлады не дазволілі правесці мітынг, запланаваны на 19 лютага. Пра гэта Еўрарадыё паведаміў прадпрымальнік Андрэй Карняйчук, адзін з заяўнікаў акцыі:

Карняйчук: "Нам забаронена правядзенне мітынгу ў сувязі з тым, што на момант падачы заяўкі на правядзенне масавага мерапрыемства не былі прадастаўленыя дамовы з хуткай медыцынскай дапамогай і з камунальнікамі. На пытанне, чаму ж на месцы мне далі іх аформіць, падпісаць бланкі, мне ў аддзеле ідэалогіі Брэсцкага гарвыканкаму нічога не адказалі".

Па словах Карнейчука, іпэшнікі хочуць бліжэйшым часам дамагчыся сустрэчы з дэпутатамі гарсавету. Яны хочуць атрымаць ад дэпутатаў справаздачу наконт таго, што тыя зрабілі для развіцця дробнага бізнесу ў Брэсце.

http://euroradio.fm/bresckim-ipeshnikam-ne-dazvolili-pravesci-zaplanavany-mityng-fota

## Берасцейскія ІП рыхтуюць чарговы пікет

Заяўку на правядзенне чарговага масавага мерапрыемства рыхтуюць берасцейскія прадпрымальнікі. Папярэдняй датай мітынга абрана 4 сакавіка, месца – адно з дазволеных гарадскімі ўладамі. Гэтым разам прадстаўнікі малога бізнесу плануюць загадзя

заключыць дамовы з усімі неабходнымі службамі – пажарнымі, камунальнікамі і медыкамі, – распавёў старшыня Савету індывідуальных прадпрымальнікаў Варшаўскага рынку Андрэй Карняйчук:

– Мы зробім усё так, як патарбуе закон. Мы загадзя заключым дамовы з усімі неабходнымі службамі.

“Мы ўжо напісалі заяву на прадмет заключэння дамовы з прадстаўнікамі хуткай медыцынскай дапамогі пры правядзенні мітынгу, таксама будзем заключаць дамову з камунальнымі службамі”, – дадаў Андрэй Карняйчук.

http://www.racyja.com/hramadstva/berastsejskiya-ip-rykhtuyuts-chargovy-pik/

## Берасцейскія прадпрымальнікі гатовыя змагацца за свае правы

Берасцейскія прадпрымальнікі гатовыя змагацца за свае правы, за магчымасць працаваць, за свой дабрабыт. Указ кіраўніка дзяржавы 222 пазбавіў іх працы, бо выканаць яго і мець хадавы тавар немагчыма, паколькі для Масквы — гэта не указ. Таму дробныя прадпрымальніка гатовыя выйсці на плошчу:

— Мы гатовыя выйсці на плошчу і прасіць, каб нам далі працу. Для нас няма працы: нас ніхто не бярэ на працу. Мы на ўсё гатовыя, каб толькі працаваць. Чаму прэзідэнт Беларусі не разглядае пытання, каб працаўладкаваць людзей? Людзі хочуць працаваць, а працы — няма. Што нам застаецца рабіць? Якое выйсце?

— Калі нас дапякуць і не будзе магчымасці легальна працаваць, а ўсё гэта закрыецца, на якія сродкі мы будзем існаваць? Мы не зможам не пратэставаць.

22 лютага прадпрымальнікі дамовіліся ў чарговы раз сабрацца на Кастрычніцкай плошчы ў Менску. Як на гэта адрэагуе ўлада пасля адмены санкцыяў і колькі збярэцца гандляроў — убачым.

http://www.racyja.com/hramadstva/berastsejskiya-pradprymalniki-gatovy/

## Берасцейскія ІП зноў просяць дазвол на мірны сход

Берасцейскія прадпрымальнікі прасілі ва ўладаў дазволу на правядзенне мірнага сходу. Аднак атрымалі адмову. ІП у адказ

напісалі чарговую заяву ў выканаўчы камітэт: яны хочуць выказацца пра фактычную забарону на працу. Пра гэта паведаміў старшыня Савета індывідуальных прадпрымальнікаў Варшаўскага рынка ў Берасці Андрэй Карняйчук:

— Мы не працуем, бо гэта ў такіх умовах проста немагчыма. Прычынай сталі ўказы №222 і №48 Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь. Таму чакаем зменаў у заканадаўстве. Мы падаем чарговую заяўку на мітынг і звяртаемся ў гарадскі савет дэпутатаў, каб яны расказалі нам пра выкананую імі работу па падтрымцы малога бізнесу на тэрыторыі Берасця.

Прыгадаем, што гарадскія ўлады Берасця адмовілі прадпрымальнікам у правядзенні мітынгу 19-га лютага на той падставе, што не былі заключаны дамовы з міліцыяй, пажарнай службай і хуткай дапамогай. Цяпер прадпрымальнікі просяць дазвол на правядзенне мітынгу 4 сакавіка.

http://www.racyja.com/hramadstva/berastsejskiya-ip-znou-prosyats-dazvol-n/

## 270 гадоў таму нарадзіўся Тадэвуш Касцюшка

Нацыянальны герой Беларусі, Польшчы і ЗША нарадзіўся 4 лютага 1746 года ў фальварку Мерачоўшчына каля мястэчка Косава.



У 1755 годзе Тадэвуш Касцюшка разам са старэйшым братам паступіў у школу манаскага ордэна піяраў у горадзе Любяшове, дзе правучыўся да 1760 года. З 1765 да 1769 гады вучыўся ў заснаванай Станіславам Панятоўскім Рыцарскай школе ў Варшаве - фактычна вайсковай акадэміі, дзе рыхтавалі адукаваных афіцэраў. Ужо тады Касцюшка здзіўляў навакольных аскетызмам, воляй і мэтанакіраванасцю, што нагадвала яго таварышам пра Карла XII, праз гэта ён атрымаў мянушку «Швед». Тадэвуш стаў адным з самых паважаных кадэтаў. Ён выбраў вайскова-інжынерную спецыялізацыю і скончыў гэтую школу ў чыне капітана.

У 1769 годзе Тадэвуш Касцюшка атрымаў каралеўскую стыпендыю і адправіўся ў Парыж для навучання ў вайсковай акадэміі. Вялікі ўплыў на маладога вайскоўца аказалі ідэі асветнікаў - Вальтэра, Мантэск'ё, Русо. У 1774 годзе Касцюшка вярнуўся на радзіму.

Месца ў войску Рэчы Паспалітай Касцюшку не знайшлося. Афіцэрскую пасаду на той момант можна было толькі купіць за вялікую суму.

А не знайшоўшы сабе прымянення на радзіме, ён ў 1775 годзе выехаў у Амерыку, каб у чыне палкоўніка змагацца на вайне за незалежнасць паўночнаамерыканскіх калоній Вялікабрытаніі. Займаўся фартыфікацыяй гарадоў і вайсковых лагераў. Вядомасць яму прынёс ўклад яго фартыфікацыі пры абароне Тыкандэрогі і пры бітве пад Саратогай 1777 года. Тадэвуш бліскуча справіўся з будаўніцтвам умацаванняў для абароны Філадэльфіі, што дазволіла яму стаць галоўным інжынерам Паўночнага войска, што адбівала напад ангельцаў з боку Канады і Нью-Ёрка. На ўласную просьбу Касцюшка быў пераведзены ў Паўднёвае войска, дзе яго веды вайсковага інжынера таксама дазволілі атрымаць шэраг перамог над ангельцамі. У прызнанне яго заслуг Кангрэс ЗША 13 кастрычніка 1783 прысвоіў яму званне брыгаднага генерала амерыканскага войска.

Па вяртанні на радзіму, у пачатку траўня 1792 года Касцюшка быў прызначаны камандзірам адной з трох дывізій, якія складалі войска Рэчы Паспалітай пад камандаваннем князя Юзэфа Панятоўскага (налічвала блізу 17 тысяч жаўнераў). У траўні 1792 годзе Касцюшка вызначыўся ў некалькіх баях з расейскімі войскамі.

Пасля перамогі Таргавіцкай канфедэрацыі Касцюшка эміграваў у Саксонію, затым у канцы 1792 года перабраўся ў Парыж, дзе ад імя патрыётаў Рэчы Паспалітай з французскім рэвалюцыйным урадам вёў беспаспяховыя перамовы аб сумесных дзеяннях супраць Аўстрыі і Прусіі.

Па вяртанні з Францыі ў Саксонію, а затым - у Галіцыю Касцюшка актыўна ўключаецца ў падрыхтоўку агульнанацыянальнага паўстання, «дыктатарам» якога яго прызначылі.

Фактычна паўстанне пачалося 12 сакавіка 1794 года, калі генерал

Антоні Мадаліньскі адмовіўся скарачаць I Вялікапольскую брыгаду нацыянальнай кавалерыі і рушыў на чале яе з Астраленкі на Кракаў. Пры весці пра гэта Касцюшка неадкладна з'явіўся ў Кракаў і там абвясціў Акт паўстання, прысягнуў сам, прывёў да прысягі жыхароў і гарнізон. Актам паўстання, падпісаным усімі жыхарамі горада, Касцюшка быў абвешчаны «Начальнікам паўстання», і яму была дадзеная ўся паўната цывільнай і вайсковай улады ў краіне. Гэты дзень - 24 сакавіка - звычайна і ўважаецца днём пачатку паўстання. У той жа дзень Тадэвуш звярнуўся да насельніцтва, выпусціўшы чатыры патрыятычныя заклікі: «Да войска», «Да грамадзян», «Да святароў» і «Да жанчын».

4 красавіка паўстанцы пад камандаваннем Касцюшкі атрымалі перамогу над расейскімі войскамі пад Рацлавіцамі. 17-18 красавіка паўстанцы гараджане вызвалілі Варшаву, а 22-23 красавіка Вільню. 7 траўня Касцюшка выдаў Паланецкі ўніверсал, у якім сялянам абяцалася асабістае вызваленне і змяншэнне павіннасцяў. Але ўжо 6 чэрвеня Касцюшка пацярпеў паразу ў Шчэкоціне. Але аблога Варшавы злучаным расейска-прускім войскам скончылася няўдачай у значнай меры дзякуючы ўмеламу кіраўніцтву абаронай з боку Касцюшкі. 10 кастрычніка ў бітве пад Мацеевіцамі з расейскімі войскамі ён быў цяжка паранены, узяты ў палон.

Да лістапада 1796 года Касцюшка быў зняволеным Петрапаўлаўскай крэпасці ў Пецярбургу. Пасля гэтага ён жыў у эміграцыі.

Імем Касцюшкі названыя вуліцы і плошчы ў некаторых гарадах Беларусі, Літвы, Польшчы і Украіны, а таксама - найвышэйшая гара Аўстраліі. Яго імя таксама ўвекавечана ў ЗША.

http://charter97.org/be/news/2016/2/4/189785/

**Кантакты:**

**e-mail:** viasna_bierascie@hotmail.com

**Наклад 299 асобникаў**

Праваабарончы
інфармацыйны бюлетэнь
Берасьцейшчыны
«Мяжа»